# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 2 (97) 16-31 студзеня 2015 г.


## Рокер з Барані атрымае кампэнсацыю маральнай шкоды ад псыхіятраў

**Кіраўнік рок-клюбу «Doors» Аляксандар Мухін адстаяў свае правы ў Віцебскім абласным судзе. Яму ўдалося канчаткова давесьці, што летась яго незаконна затрымалі і зьмясьцілі на прымусовае псіхіятрычнае лекаваньне.**

Гісторыя ўзаемаадносінаў жыхара Барані Аляксандра Мухіна зь мясцовымі лекарамі-псыхіятрамі пачалася ў 2014 годзе. 10 траўня яго забралі з дому ў аршанскі псыханэўралягічны дыспансэр. Пасьля гутаркі зь лекарамі яму паставілі дыягназ «Сындром залежнасьці ад алькаголю» і распачалі прымусовыя лячэбныя працэдуры.



Аляксандар Мухін

Прымусовае лекаваньне працягвалася тры дні. Аляксандру Мухіну не дазвалялі патэлефанаваць родным, забралі акуляры, безь якіх яму цяжка абыходзіцца, бо ён мае высокую ступень блізарукасьці. А пэрсанал, паводле ягоных слоў, увесь час паўтараў, што яго са шпіталя больш не выпусьцяць. Тым ня менш 12 траўня яго адпусьцілі дадому, але паставілі на ўлік у псыханэўралягічным дыспансэры.

Спадар Мухін ня стаў шырока паведамляць пра гэтае здарэньне, але напісаў заяву ў аршанскую пракуратуру. Дадаў таксама і пра свае безвыніковыя памкненьні зьняцца з псыхіятрычнага ўліку.

Пасьля звароту ў пракуратуру Мухіна з уліку зьнялі, і 23 ліпеня ён атрымаў ліст з цэнтральнай паліклінікі, дзе кіраўніцтва прызнавала, што псыхіятры паставілі беспадстаўны дыягназ і парушылі правы пацыента. Гэты дакумэнт стаў аргумэнтам у судзе: Аляксандар Мухін напісаў пазоў пра нанясеньне шкоды ягонаму гонару, годнасьці і дзелавой рэпутацыі ды запатрабаваў кампэнсацыі маральнай шкоды памерам 25 мільёнаў рублёў.

Суд прыняў рашэньне спагнаць з паліклінікі 3 мільёны рублёў на карысьць Мухіна. Аднак з такім рашэньнем не пагадзіўся галоўны ўрач мэдычнай установы Аляксандар Плыткевіч. Нягледзячы на тое, што Мухіну быў дадзены адказ, у якім былі пацьверджаныя парушэньні, галоўны ўрач паліклінікі спрабаваў апраўдаць дзеяньні калег.

Тым ня менш 22 студзеня 2015 году Віцебскі абласны суд пакінуў бязь зьменаў рашэньне аршанскага суду наконт матэрыяльнай кампэнсацыі пацярпеламу. Што да дзеяньняў мэдпэрсаналу, то сытуацыя з Мухіным стала падставай для атэстацыі спэцыялістаў на веданьне заканадаўства, якім яны мусяць кіравацца ў падобных выпадках.

Для самога Аляксандра Мухіна справа абароны ўласнага гонару была прынцыповай. Ён — вядомая ў рэгіёне асоба, стваральнік і кіраўнік рок-клюбу «Doors», арганізатар шматлікіх канцэртаў.

У інтэрвію аршанскаму незалежнаму сайту orsha.eu Аляксандар Мухін яшчэ раз абгрунтаваў сваю пазыцыю: **«Свабода для мяне – не пустое слова. І я не хачу ператварацца ў быдла, маўклівае і бяспраўнае. Калі гэта ўсё пачыналася, сваякі і знаёмыя казалі мне: "Ты нічога ня зможаш дамагчыся. Куды ты лезеш? Могуць і насамрэч дурнем зрабіць. Гэтую сьцяну не праб'еш". Але Свабода – гэта натуральнае пачуцьцё кожнага чалавека, дадзенае нам пры нараджэньні. І ня трэба яго заганяць у нейкі цёмны і далёкі куток сваёй душы»**.

# Праз сацыяльныя сеткі распаўсюджваецца «кампрамат» на віцебскіх актывістаў

*Невядомыя разьмясьцілі ў сацыяльных сетках абразьлівыя ды ілжывыя допісы пра прыхільнікаў стварэньня партыі БХД і іншых актывістаў. Інфармацыю пра допісы разаслалі як іхным асабістым знаёмым, так і аднадумцам зь ліку дэмакратычнай апазыцыі ды незалежным журналістам.*

Журналістаў спрабуюць уцягнуць у дыскусіі, прапануючы ім «гарачыя тэмы» і «сэнсацыйныя навіны». Пра тое, што стаіць за «сэнсацыямі», паведаміла **Алена Шабуня**, віцебская актывістка аргкамітэту па стварэньні партыі БХД:

«Я атрымала ліст у „Фэйсбуку“ ад невядомай мне асобы, што ў сацыяльнай сетцы „Ўкантакце“ ёсьць згадкі пра Тацьцяну Севярынец і маю зь ёй супольную працу. А ва „Ўкантакце“ я ўбачыла суполку, якая знарок створаная для „ўкідаў“ ілжывых і абразьлівых зьвестак: у суполцы пяць удзельнікаў, і сярод іх таксама, здаецца, няма ніводнай рэальнай асобы — няма прозьвішчаў, а замест фотаздымкаў нейкія карцінкі. Усе допісы — спрэс абразьлівыя: то камэнтары да фотаздымкаў **Тацьцяны Севярынец**, што былі апублікаваныя на сайце bchd.info, то абмеркаваньне ўлётак, дзе нехта шукаў артаграфічныя памылкі, то ўжо зусім правакацыйныя паведамленьні пра прыватнае жыцьцё — і Тацьцяны Севярынец, і каардынатара руху „За свабоду“ **Хрыстафора Жаляпава**, і мясцовага палітыка **Сяргея Рыжова**. Пасьля допісаў імітуюцца абмеркаваньні тымі самымі пяцьцю чальцамі суполкі, прычым зусім ужо непрыстойнага зьместу».

Тацьцяна Севярынец, на якую «аматары кампрамату» зьвярнулі найбольш увагі, лічыць зьяўленьне інтэрнэт-паклёпнікаў невыпадковым:

«Значыцца, мы трапілі ў балючую кропку сваёй дзейнасьцю! За колькі дзён да актывізацыі „троляў“ мы бралі ўдзел у сходзе, арганізаваным віцебскімі ўладамі. Вялося пра нашы калектыўныя лісты наконт нездавальняючай якасьці мэдычнага абслугоўваньня. Чыноўнікі назвалі нас з Аленай Шабуняй „ворагамі дзяржаўнага ладу“ — толькі за тое, што мы зьбіралі подпісы пад калектыўнымі лістамі за будаўніцтва паліклінікі. Прадстаўнікі ўладаў сказалі, што для будаўніцтва, якое меласе завяршыцца пару гадоў таму, яшчэ „не прыйшоў час“. Бо насельніцтва ў мікрараёне, дзе няма ніводнай мэдычнай установы, толькі 25 тысяч, а паліклінічны комплекс, сказалі, будзе рэнтабэльны толькі тады, калі жыхароў стане больш у 2 разы. Пра гэты сход шмат пісалі ў СМІ, і людзі былі незадаволеныя такой пазыцыяй кіраўніцтва. Вось неўзабаве і зьявіліся тыя, хто нам „адпомсьціў“, выклаўшы розную брыдоту ў сацыяльных сетках!»

Гэткага кшталту «ўкіды» нібыта скандальнай інфармацыі мелі месца і раней. Напярэдадні мінулых мясцовых выбараў у той самай суполцы «Ўкантакце» распаўсюджвалі паклёпніцкую інфармацыю пра апазыцыйнага кандыдата Хрыстафора Жаляпава, каардынатара руху «За свабоду», які балятаваўся ў абласны савет. Тамсама друкаваліся і карыкатуры на праваабаронцу **Паўла Левінава**, палітыкаў **Вольгу Карач** і Сяргея Рыжова.

# *Распачаліся ганеньні на крышнаітаў?*



**У Полацку былі затрыманыя двое сяброў крышнаіцкай суполкі, на якіх былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэньні паводле артыкулу 17.1 "Дробнае хуліганства". 15 студзеня ў судзе Цэнтральнага раёну Менску адзін з затрыманых змог азнаёміцца з матэрыяламі справы і напісаць заяву-хадайніцтва пра перанос судовага паседжаньня ў сувязі з камандзіроўкай найбліжэйшым часам. Адміністрацыйная справа другога затрыманага была перададзеная ў суд Аршанскага раёну і гораду Воршы.**

Са словаў абвінавачаных стала вядома, што знаходзячыся каля гандлёвага дому ў Полацку, яны прапаноўвалі мінакам паразмаўляць і азнаёміцца зь літаратурай. У гэты час да іх падышла жанчына, якая прадставілася адміністратарам гандлёвага дому, і папрасіла адысьці далей ад будынку. Крышнаіты выканалі просьбу, але праз некаторы час былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі.

Пратрымаўшы беспадстаўна іх каля шасьці гадзінаў, не патлумачыўшы прычыны затрыманьня, іх правы і абавязкі, міліцыя прад'явіла ім абвінавачаньні ў "дробным хуліганстве", у тым ліку за нецэнзурную лаянку ў публічным месцы. Пасьля складаньня пратаколаў на падставе заявы адміністрацыі гандлёвага дому сяброў крышнаіцкай суполкі адпусьцілі, а справы накіравалі ў суды па месцы іх рэгістрацыі – у Менск ды Воршу.

Трэба адзначыць, што нецэнзурная лаянка пярэчыць рэлігійным перакананьням крышнаітаў, як і абразьлівае приставаньне да грамадзянаў і іншыя наўмысныя дзеяньні, якія парушаюць грамадзкі парадак.

# Віцебскі абласны суд ня хоча аднаўляць правы прафсаюзнага лідэра

**Віктар Стукаў, кіраўнік суполкі СПБ прадпрыемства «Полацак-Шкловалакно», зьвярнуўся ў абласны суд са скаргай на дыскрымінацыю чальцоў незалежнай прафсаюзнай арганізацыі. Але ў судзе сказалі, што ён зьвяртаецца «не па адрасе». Месяц таму ў задавальненьні ягонай скаргі адмовіў суд Полацку і Полацкага раёну.**



Віктар Стукаў

Прафсаюзны актывіст распавёў: «У сьнежні я зьвяртаўся ў Полацкі суд па двух пытаньнях. Першае — каб мяне бесьперашкодна прапускалі на тэрыторыю прадпрыемства, другое — каб спынілі дыскрымінацыю ў дачыненьні да нашага прафсаюзу. Дыскрымінацыя ў тым, што нас не запрашаюць і не пускаюць на калектыўныя перамовы з працадаўцам, у адрозьненьне ад афіцыйнага, прадзяржаўнага прафсаюзу. Без удзелу ў перамоўным працэсе мы ня можам уплываць, прыкладам, на складаньне працоўнай калектыўнай дамовы. З намі ўвогуле ня хочуць весьці аніякіх перамоваў, і таму судовыя рашэньні выглядаюць як зьдзек. Мясцовы суд не задаволіў гэтую скаргу, а абласны патлумачыў, што дыскрымінацыя прафсаюзу — гэта не прадмет судовага разбору. Што гэта, маўляў, вырашаецца ў працэсе перамоваў з кіраўніцтвам. Якія перамовы, калі іх няма, бо за гэтае права я якраз і змагаюся?»

Дарэчы, што да першай скаргі, якую месяц таму задаволіў Полацкі суд, то гэтае рашэньне хоча аспрэчыць ужо кіраўніцтва прадпрыемства, дадае Віктар Стукаў: «Полацкі суд пастанавіў, каб мне выпісалі пропуск і бесьперашкодна прапускалі на вытворчасьць. Я пэнсіянэр, вызвалены прафсаюзны кіраўнік, і гэтым адміністрацыя карыстаецца, каб стварыць перашкоды для маіх сустрэчаў з рабочымі. У касацыйнай скарзе адміністрацыя напісала, што я „стварaю праблемы“, калі прыходжу на прадпрыемства — правакую на скандалы, парушаю дысцыпліну і гэтак далей. Гэтаму няма ніякіх пацьвярджэньняў, але касацыйная скарга ўжо пададзеная, чакае разбору. А на прадпрыемства мяне па-ранейшаму не пускаюць».

Віктар Стукаў мяркуе, што адміністрацыя перастрахоўваецца, каб ня сталі вядомымі парушэньні ў дачыненьні да працаўнікоў. Суполка СПБ ставіць вострыя пытаньні наконт правоў працоўных, у прыватнасьці, пра парушэньні правілаў аховы працы. Ня так даўно, дзякуючы інфармацыі ад работнікаў «Полацак-Шкловалакна» стаў шырока вядомы выпадак, калі па дамоўленасьці з начальнікам цэху ў плавільнай печы жыўцом спалілі котку з кацянятамі. Зразумела, што ў працоўныя абавязкі работнікаў «скуралупства» не ўваходзіць, ня кажучы ўжо пра маральны аспэкт гэтага выпадку.

**Паводле Віктара Стукава, адміністрацыя баіцца «працёку» любой нэгатыўнай інфармацыі за межы прадпрыемства. А СПБ мае магчымасьць ня толькі зафіксаваць, але і распаўсюдзіць такую інфармацыю — праз уласны бюлетэнь «Стекляшка» або праз свой інтэрнэт-сайт.**

# Блог віцебскага актывіста падвергся атацы



Сяргей Белязека

Невядомыя зламысьнікі ўзламалі **блог «Вольная зона Беларусь»**, які вядзе ў «Жывым часопісе» **віцябчук Сяргей Белязека**. Цягам двух сутак аўтар ня мог зайсьці на свой сайт. І толькі ўмяшаньне адміністрацыі «Жывога часопісу» дапамагло вырашыць праблему: праца блогу была аднаўленая.

Блогер Сяргей Белязека: *«На мой сайт адбылася атака нейкага "Кібэрберкуту". Мне прыйшло на электронную паштовую скрыню паведамленьне ад адміністрацыі "Жывога часопісу", што ў мой сайт спрабавалі залезьці чужыя людзі. У выніку шмат хто спрабавалі зайсьці на сайт, каб пачытаць, і пісалі, што не маглі. Маглі ўзламаць і зь Беларусі, і з Расеі, і з Украіны — розныя фанаты "Кібэрберкуту". Пазьней ад адміністрацыі "Жывога часопісу" мне прыйшло паведамленьне такога зьместу: Дзякуй за ваш допіс. Вашаму акаўнту вернуты дзеючы статус. На гэты момант мы пасьпяхова выдалілі запісы, пакінутыя зламысьнікам у вашым часопісе».*

Сяргей Белязека за свой удзел у акцыях апазыцыі ў сярэдзіне 2000-х гадоў неаднаразова затрымліваўся супрацоўнікамі міліцыі і падвяргаўся адміністрацыйным спагнаньням. Апошні такі выпадак адбыўся ў кастрычніку 2007 году, калі актывіст быў затрыманы ля вёскі Паляі за ўдзел у акцыі ў памяць ахвяр камуністычнага рэжыму і аштрафаваны на 20 базавых велічынь нібыта за парушэньне парадку правядзеньня масавага мерапрыемства. Пазьней Камітэт ААН па правах чалавеку прызнаў, што, затрымаўшы і аштрафаваўшы Сяргея Белязеку, улады Беларусі парушылі ягоныя правы.

У рэшце рэшт ім было прынятае рашэньне больш ня ўдзельнічаць у апазыцыйных акцыях — «каб аплачанымі штрафамі не фінансаваць дзяржаву». Цяпер Сяргей Белязека вядомы сваёй актыўнасьцю ў інтэрнэце. У сваім блогу «Вольная зона Беларусь» ён публікуе развагі наконт бягучых падзеяў, свае вершы і тэксты песень з акордамі, жарты, а таксама пародыі ўласнага аўтарства.

# Віцебчукі працягваюць абскарджваць штрафы за фотаздымкі на фоне графіці

**Прызнаўшы фотасэсію на фоне гарадскога графіці несанкцыянаваным пікетаваньнем, суд Чыгуначнага раёну Віцебску аштрафаваў шэсьць удзельнікаў. Спробы абскардзіць гэтае рашэньне ў абласным судзе посьпеху не мелі. Цяпер пададзеныя скаргі на імя старшыні абласнога суду.**



Павал Левінаў

Паводле праваабаронцы Паўла Левінава, удзельнікі фотасэсіі вырашылі давесьці справу да канца — калі прыйдзецца, то зьвярнуцца і ў Камітэт па правах чалавека ААН: *"Былі спробы аспрэчыць рашэньне суду першай інстанцыі — не атрымалася. Тады мы паспрабавалі зьвярнуцца да старшыні абласнога суду, каб адкласьці час выкананьня рашэньня, пакуль ён не азнаёміцца з нашымі справамі. Але і тут усе атрымалі адмовы. Вырашылі зьвярнуцца ў раённы суд, каб нам дазволілі заплаціць штраф у растэрміноўку, бо ў аштрафаваных не такія вялікія прыбыткі, каб адным разам сплаціць больш як па тры мільёны рублёў — і тут адмовілі"*.

Павал Левінаў таксама быў адным з удзельнікаў фотасэсіі, якая прайшла ў Віцебску ў пачатку лістапада 2014 году. Удзельнікі вырашылі сфатаграфавацца на фоне вядомага ў горадзе графіці — малюнку трох клетак, зь якіх вырываюцца на волю птушкі, зробленыя з газэты. Каб працягнуць тэму свабоды прэсы, узьнятую невядомым мастаком, людзі на фотаздымках таксама трымалі ў руках хто папяровыя клеткі, а хто — зробленых з газэт птушак-арыгамі.

Гэтыя фотаздымкі трапілі ў інтэрнэт 5 лістапада, калі ў сьвеце праводзілася міжнародная кампанія салідарнасьці "Станем за журналістыку". Удзельнікаў фотасэсіі, сярод якіх былі і праваабаронцы, і журналісты, і грамадзкія актывісты, аштрафавалі як удзельнікаў несанкцыянаванага пікетаваньня. Фотасэсія прайшла без увагі міліцыі, але праз два тыдні пасьля зьяўленьня фотаздымкаў у інтэрнэце ўсіх, каго пазналі па фота, выклікаў начальнік аддзелу аховы прафіляктыкі і правапарадку міліцыі Чыгуначнага раёну Аляксандар Рыбакоў. Ён апытваў удзельнікаў фотасэсіі, і, нягледзячы на іх тлумачэньні, складаў пратаколы правапарушэньня.

На судзе над кожным удзельнікам фотасэсіі маёр міліцыі Рыбакоў быў адзіным сьведкам. Ён казаў, што загад разабрацца зь людзьмі на фотаздымках атрымаў ад свайго кіраўніцтва з абласной управы МУС, і што, на ягоную думку, удзельнікі фотасэсіі "выказвалі свае грамадзка-палітычныя інтарэсы". Тое, што ўсе людзі маюць права на свабоднае выказваньне ўласных думак, не ўлічыў ні міліцыянт, ні суд. Штраф памерам 20 базавых велічыняў атрымалі журналісты Алена Сьцяпанава (судзьдзя Дзяніс Губанаў), Кастусь Мардзьвінцаў (судзьдзя Алена Цыганкова), Зьміцер Казакевіч (судзьдзя Алена Цыганкова). Штраф памерам 18 базавых велічыняў прысуджаны актывістцы аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Алене Шабуні (судзьдзя Дзяніс Губанаў), віцебскай каардынатарцы аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Тацьцяне Севярынец і праваабаронцу Паўлу Левінаву былі прысуджаныя штрафы памерам 25 базавых велічыняў (судзьдзя Алена Цыганкова). Гэтая ж судзьдзя пакарала трыма суткамі арышту жыхара Віцебску Пятра Бярлінава — выпадковага мінака, які далучыўся да фотасэсіі віцебскіх журналістаў і актывістаў.

**Сплаціць штрафы ў растэрміноўку не дазволілі нікому з вышэй пералічаных асоб. Судзьдзі суду Чыгуначнага раёну не ўлічылі, што сярод аштрафаваных ёсьць беспрацоўныя, пэнсіянэры зь невялікай пэнсіяй, прыкладам, як Тацьцяна Севярынец, а Алена Шабуня зьяўляецца інвалідам 3-й групы па зроку, і таксама жыве на адну пэнсію, пры гэтым яна адна гадуе траіх дзяцей, двое зь якіх — непаўнагадовыя.**

*"Я ўжо спрабаваў аспрэчыць рашэньне пра адмову ў растэрміноўцы,* — кажа Павал Левінаў. — *Паказаў квіток, што атрымліваю пэнсію, і другі — што 600 тысяч мушу плаціць толькі за камунальныя паслугі. Паказаў пасьведчаньне аб сьмерці бацькі, якога толькі нядаўна пахаваў, а гэта, як вядома, таксама вялікія выдаткі... Аднак судзьдзя Алена Цыганкова так і не знайшла дастатковых падстаў, каб дазволіць пагашэньне штрафаў цягам некалькіх месяцаў — ні для мяне, ні для астатніх. Да нас ставяцца так, нібыта мы нанесьлі дужа вялікую шкоду гораду і правапарадку ў ім, усяго толькі сфатаграфаваўшыся на фоне графіці! Нідзе ў сьвеце за падобныя фотаздымкі не караюць"*.



Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.